ладоё жыцьцё ў брацьбе за лепшую долю і волю народу? Сёньня іхныя магілы, параскіданыя па шырокіх абшарах бацькаўшчыны і па чужых краёх, магчыма парастаюць дзірваном. Ня маючы магчымасьці злажыць на гэтых магілах хоць адну, другую жывую кветку, можна папяшаць сябе, што там у тых магілах ляжаць прыгажэйшыя за ўсякія кветкі чароўныя лятуценьні, палкія маладыя сэрцы і маладое квітнеючыя жыцьцё — гэта праўда, але было-б сумна, калі-б ўсё так прыгожае і так бясцэнна дарагое парастала магільным дзірваном і адначасна гэткім-жа дзірваном зарастала памяць іх ў сэрцах іх суродзічаў. Вялікая іхняя ахвяра, але патрэбна яшчэ шчырая малітва жывучых, каб міласэрны Бог прыняў іхнюю шчырую ахвяру і каб дараваў ім іхныя сьведамыя і нясьведамыя грахі. Калі хто ня можа справіць сытнае вячэры Дзядоў, дык малітву за іх і можа і мусіць выканаць — гэта наш сьвяты абавязак.

Нельга забывацца так-жа і таго, што і нас чакае магіла.

Шмат у нашым жыцьці ёсьць дарог,
А вядуць яны ўсе да магілы,

казаў М. Багдановіч. Мы раней, ці пазьней скончым наша туземнае падарожжа, пяройдзем у засьветы, і хто ведае, колькі мы будзем патрабаваць малітваў і добрых учынкаў ад тых, якія яшчэ будуць жыць на гэтым сьвеце? Калі хто аб гэтым забываецца, дык Дзяды даюць вельмі добрую нагоду ўспомінаць аб гэтым важным мамэнце.

Ужо ад вякоў ведама, што людзкая памяць асабліва схільная забывацца аб такой няпрыемнай будучыні, якою ёсьць сьмерць. Вельмі вобразна малюе гэтую забудзькаватасьць адно старое індыйскае апавяданьне.

Якісьці чалавек, ідучы па бязьлюднай дарозе, натрапіў на тыгра і пачаў уцякаць у блізкі хмызьняк, але раптам уваліўся ў яму. На шчасьце, падаючы, ўхапіўся за нейкі куст, што рос на ўскраю ямы. Трымаючыся моцна за галінку, ён глянуў уверх — там убачыў над сабою драпежныя вочы тыгра; калі ён глянуў уніз, з жахам убачыў на дне ямы злосныя вочы гадзіны; прыглядаючыся да кусьціка, на якім вісеў, ён убачыў дзьве мышы: чорную і белую, якія паперамена падгрызалі карані таго кволага кусьціка. Жудасна стала няшчаснаму. Але вось ён пачынае прыглядацца да галінкі, за якую трымаўся, і убачыў на ёй прыгожыя ягады. Ён раптам забываецца аб усім і пачынае ласавацца ягадамі, а белая і чорная мышы бязупынна грызьлі карэньні, на якім вісела ягонае жыцьцё.

У гэтым апавяданьні ўсё сымбалічнае, але сымбалі дабраны вельмі трапна: тыгр і гадзіна — гэта тыя няшчасьці, якія пагражаюць чалавеку на кожным кроку і ворагі, якія насядаюць на душу чалавека; белая і чорная мышы — гэта дзень і ноч; а ягады — гэта розныя прыемнасьці жыцьця. Дзякуючы гэтым «ягадам», чалавек вельмі часта забываецца і аб небясьпеках, якія пагражаюць для душы і цела і аб сваіх абавязках адносна сваіх бліжніх і нават адносна самога сябе і свае душы.

На гэта і ёсьць сьвяты і розныя пабожныя звычаі, каб адсьвяжыць у памяці найбольш важныя заданьні жыцьця і даць нагоду выканаць іх. Дык не марнуйма такое важнае нагоды, якою ёсьць Дзяды, і выканайма тое, што можам выканаць у сучасных абставінах для душаў нашых продкаў і душаў загінуўшых у змаганьні за волю народу.

**Л. Стаўпецкі.**

# Ля магільнае брамы

У адзін з позных асеньніх дзён па дарозе на магільнік Цімох спаткаў свайго старога добрага прыяцеля Рамана і прывітаўшыся адразу загаварыў аб тым, што яго ў той час найбольш займала.

— Ведаеш, Рамане, іду я на магільнік, а сам думаю, што-б гэта было, каб людзі ня ўміралі?..

— Хіба-ж ты ня чуў, што кажуць старыя аб гэтым: «Як-бы людзі ня ўміралі, дык-бы ў неба ўпіралі».

— Чуць пэўна-ж што чуў і яно праўды так ёсьць, але ведаеш неяк несамавіта робіцца, калі падумаеш, што вось па гэтай дарозе, па якой цяпер ступаюць твае ногі, некалі будуць несьці тваё няжывое цела вонь туды пад тыя дрэвы ў халодную яму.

— Ну ўжо тады дык холаду напэўна ня будзеш баяцца, — жартаваў Раман, — можа наадварот, будзеш баяцца, каб ня трапіць у гарачую смалу.

— Цяпер дык можна аб гэтым жартаваць, але мусіць, як пачуеш над сабою халодную руку кастухі, дык аб жартах забудзешся.

— Можа тады і забудуся але зачым ламаць сабе голаву тым, чаго ані ты, ані ніхто зьмяніць ня можа? Лепш ужо думаць аб тым, як выкарыстаць гэты кароткі час, пакуль нас носяць нашыя ногі, каб можна было потым з чыстым сумленьнем легчы ў дамавіну, а тады можна сьмяяцца нават самой сьмерці ў самыя вочы.

— Мусіць такіх адважных мала знойдзецца.

— Ці мала, ці многа, гэтага ніхто ня ведае, але думаю, што напэўна ня стане валасоў на тваёй галаве (а ў Цімаха галава была лысая, як калена), каб іх усіх пералічыць.

— Я гавару зусім паважна, а табе ўсё на жарты зьбіраецца, — крывіўся Цімох.

— А чаго мне перад часам у магілу перціся, сумаваць, завязваць сабе вочы чорнаю плахтаю? Дый ты сам, як-бы прыглянуўся ўважней да таго аб чым гутарыш, дык-бы так-жа жартаваў, а не заводзіў хаўтурнае песьні.

— Ну ты, Рамане, мусіць сёньня недзе ўпіўся; якія-ж гэта жарты са сьмерцю?

— Якія? Вось дзівак. Ты адно думаеш, што сьмерць кладзе ў дамавіну жыцьцё чалавека, а ня бачыш, што яна адначасна кладзе канец людзкому цярпеньню і адчыняе дарогу для новага жыцьця. — Сябры ішлі якраз алеяю ўсланаю апаўшым лісьцем. — Во глянь пад ногі, колькі тут між гэтых апаўшых асеньніх лістоў паедзеных вусьнямі, пабітых градам, парваных ветрам. І вось цяпер апалі яны ды згніюць, а на іх мейсца вясною дрэвы ўкрыюцца новым, сьвежым і прыгожым лісьцейкам. Або вось у тых магілах, колькі там калекаў, колькі пакрыўджаных, колькі зьняможаных, колькі друзлых старых, колькі розных хваравекіх? А каб-жа людзі даўжэй жылі, дык сьвет аж кішма кішэў-бы ад калекаў. А так вось спачываюць яны спакойна, а ім на зьмену прыйшлі *новыя пакаленьні з юнац*кімі сіламі, з анельскаю красою, з імклівымі думкамі. А калі жыцьцё паломіць іхныя крыльлі, сьцьміць іхныя вочы, згорбіць іхныя стройныя постаці, як нас цяпер, дык што можа быць лепшае для нас, як пайсьці на вечны супачынак?

— Хораша ты гаворыш, Рамане, добра слухаць такую гутарку, але калі-б гэта адносілася толькі да іншых, дык тады пэўна-ж дамавіну можна размаляваць прыгажэй за ўсякія палацы, але калі самому ў гэтую дамавіну легчы трэба, дык тады, нябось, скажаш: Хораша ў найме, да ня дай Бог мне.

— Яно ня зусім так, бо я ўжо лепш скажу: Што будзе ўсяму сьвету, тое й бабінаму сыну і пайду сабе сьледам за дзедам.

— Ну ў цябе-ж сёньня і настрой, усёроўна не як на магільнік ідзеш, а на якое вясельле.

— Магільнік магільнікам, а праўда праўдаю, і калі гэтая праўда для мяне ня страшная, дык чаго я маю маркоціцца. Вонь няхай тыя маркоцяцца і лякаюцца, хто нячыстае сумленьне мае; ўсякія ліхадзеі, шкурадзёры, крывасмокі і злачынцы — во хто няхай сумуе. Дзякуй Богу, што на іх ёсьць сьмерць, а каб ня сьмерць дык-бы яны на зямлі пекла зрабілі. А такія, як мы, што мы трацім уміраючы? Калі было што на сумленьні, дык не пабаімся шчыра высапвядацца і хоць сёньня да Абрама на піва гатоў. Але тым, у каго сумленьне чарней асеньняе ночы, хто споведзі баяцца, як агню, вось аб тых ты падумай, якая на іх ёсьць іншая рада, акрамя сьмерці і пекла?

— Гэта праўду ты кажаш, Рамане, — ціха сказаў Цімох.

Сябры ўвайшлі ў магільную браму і змоўклі, толькі асеньняе лісьце шуршэла пад іхнымі нагамі.

**Анатоль Жменя.**

# Песьні ўзыходжаньня

(Вольны пераклад).

ПСАЛЬМ 121.

Давідавы.

Усьцешыўся я, калі мне кагадзе
сказалі: «ў дом Госпада-Бога хадзем!»
І вось нашы стопы ужо беззваротна
стаяць ля тваіх, Ерузалем, варотаў.
Ты зноў адбудованы й моцна замкнёны
сташ цытадэляю, горад хвалёны,
куды ідуць Госпада-Бога плямёны,
каб водля Ізраілю даных законаў
хваліць Тваё, Госпадзе, імя.
Стаяць там пасады судовыя ўсюды,
пасады і дому Давідава з імі.
Прасеце спакою для Ерузаліму!
Хай маюць спакой пажаданы і тыя,
што любяць цябе усім сэрцам, сьвятыня.
Няхай спакой будзе і ў мурах тваіх,
і шчасьце хай будзе ў харомах тваіх.
І дзеля братоў маіх, бліжніх, табе
я зычу спакою, як зычу сабе.

Да Госпада нашага Бога ў мальбе
зьвяртаюся я, прашу шчасьця табе.

ПСАЛЬМ 125.

Калі Бог палонных з Сьёну вяртаў,
мы бачылі гэта нібыта ўва сьне;
язык наш ад радасьці шчыра пяяў,
а вусны расквечваў нам сьмех;
казалі тады між народамі ўсімі:
«Вялікае Бог учыніў ды над імі!»
Вялікае Бог ды над намі ўчыніў:
і мы весяліліся ў гэтыя дні.
Вярні і цяпер, Божа, нашых палонных,
як водаў струмені у краі паўдзённым!
Хто ў сьлёзах засеяў гаротную ніву,
сажне той у радасьці буйнае жніва.
Хто з плачам бяздольным ідзе на палетак,
туды нясучы са сьлязамі пасеў, —
сабе на уцеху, на ўцеху і дзетак
ён з радасьцю плён прынясе.

 

### П С А Л Ь М 127.

Шчасьлівы той кожны, хто ў страху Гасподнім
шляхамі Ягонымі ходзіць сягоньня.
Ты працаю рук тваіх будзеш накормлен,
і добра табе, і ты шчасьцю пакорны.
І жонка твая будзе плоднаю ў хаце,
як быццам лаза вінаградная, браце;
і вокала столу сыны — твае дзеці,
як быццам галіны аліўкаў у цьвеце.
Але багаслаўлены так будзе муж той,
хто Бога баіцца і Божых ушчункаў.
Хай Госпад з Сыёну цябе багаславіць
і ўсе дні жыцьця твайго радасьцю справіць,
і будзеш ты цешыцца з шчаснае долі
Ерузаліму ўсё болей і болей.
Сыноў ад сыноў дачакаеш, як людзі,
і Бога праславіш на поўныя грудзі.
Ізраілю мір няхай будзе!

### П С А Л Ь М 128.

Як шмат я уціску зазнаў з маладосьці,
хай скажа — пасьведчыць Ізраіль.
О, шмат я уціску зазнаў з маладосьці!
Яны на хрыбце маім бедным аралі,
даўгія свае вывадзілі барозны
на цьвёрдай, зарослай ральлі, —
мяне ўсё-ж яны не змаглі.
Гаспод справядлівы, хоць грозны;
расьсек ланцугі тых бязбожнікаў Ён.
Няхай асаромлены будуць ўсе тыя,
адступяцца хай ліхадзеі і злыя,
што сэрцам сваім ненавідзяць Сыён!
І будуць яны, як трава на страсе,
што перш засыхае, чым вырвуць яе,
якая насеньня яшчэ не страсе,
якой жнец ня возьме і жменяй сваей,
ня зьвяжа вязальнік прыгоршчаў-снапоў.
Праходзячы міма, ня скажа ніхто:
«Хай добрае ўсё вам заўсёды й сягоньня!
Багаслаўляем вас імем Гасподнім!»

### П С А Л Ь М 129.

З глыбіні, о Госпадзе, клічу Цябе:
пачуй Ты мяне ў маёй шчырай мальбе!
А голас мой мкнецца да вушаў Тваіх,
няхай яны ўчуюць маленьні маі.
Калі-ж не забудзеш, о Божа, правін,
ці-ж хто устаіць прад Табой, хоць адзін?
У Цябе й дараваньне й збаўленьне з бяды,
каб людзаі Цябе паважалі ўсягды,
І я спадзяюся на Бога майго,
душа мая прагне чуць слова Яго.
Душа мая Госпада прагне, 'шчэ больш,
чым прагнуць сьвітаньня на варце у золь.
Надзеі кладзі ўсе на Бога, *народ*,
бо ласка ў Яго і ключы ад свабод!
Імкніся-ж, народзе, да Бога ў мальбе
і Ён ўсе правіны даруе табе!

**Янка Золак.**

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ



### АДКАЗНАСЬЦЬ СЬВЯТАРОЎ ЗА ДЭХРЫСЬЦІЯНІЗАЦЫЮ.

З нагоды міжнароднага кангрэсу катэхістаў у Рыме Сьвяцейшы Айцец Пій XII прамаўляў да кангрэсістаў і ў сваім слове падчыркнуў неабходнасьць хрысьціянскае пэдагогіі ў навучаньні агулам і ў навучаньні рэлігіі ў асаблівасьці. Наступна зьвярнуў увагу на тую вялікую адказнасьць, якую нясуць усе тыя, хто навучае рэлігію, бо часта прычынаю ўтраты веры ёсьць памылкі сьвятароў, або іхняя нядбаласьць у выконваньні сваіх абавязкаў.



### ЗВАРОТ ДА СЬВЯТАРОЎ СЬВЯЦЕЙШАГА АЙЦА ПІЯ XII.

Між усімі дакумантамі адносна сьвятарства, якія апошнім часам зьявіліся ў Каталіцкай Царкве, бясспрэчна асабліваe значэньне мае зварот Сьвяцейшага Айца Пія XII з дня 26-IX да ўсяго каталіцкага сьвятарства.

У першых дзьвёх частках гэтага Звароту гаворыцца аб сьвятасьці сьвятарскага стану і дзейнасьці сьвятара. Трэцяя частка прысьвечана практычным увагам аб фармацыі сьвятарства, аб яго духовым, маральным ды інтэлектуальным разьвіцьці. Не занедбываючы філязафічнае і багаслоўскае навукі, сьвятары не павінны адставаць ад сьвецкіх і ў агульных ведах, як у галіне літаратуры, прыродазнаўства і інш. Сучаснае становішча больш чым калі вымагае ад сьвятароў узорнага жыцьця ў пакоры, послуху, дасканалае чысьціні і ня прывязвацца да матэрыяльнага дабра.

Пераходзячы ўканцы да сучасных праблемаў, Сьвяцейшы Айцец гаворыць: «Не павінна быць ніякае нерашучасьці ў адносінах да камунізму. Ёсьць некаторыя, што ў абліччы злачынстваў камуністаў і абяцанкаў матэрыяльнага дабрабыту, якімі маецца на мэце зламаць веру, выяўляюць сябе нерашучымі і баязьлівымі. Але Апостальскі Пасад ужо няраз рознымі дакумантамі ясна паказваў шлях, з якога ніхто не павінен зыйсьці, калі ня хоча адмовіцца ад свайго абавязку.

Іншыя зноў выяўляюць нерашучасьць і баязьлівасьць супраць эканамічнае сыстэмы званае капіталізмам і ягоных цяжкіх злаўжываньняў. Царква-ж ня толькі паказала надужыцьці капіталізму і на права ўласнасьці, якое капіталізм падтрымоўвае і абараняе, але так-жа зазначыла, што і капітал і ўсласнасьць павінны быць дзейнікамі прадукцыі на карысьць усяго грамадзтва і сродкамі падтрыманьня свабоды і годнасьці асобы чалавека. Памылкі абодвых сыстэмаў (капіталізму і камунізму) і іхныя небясьпечныя насьледкі павінны пераканаць усіх, асабліва-ж сьвятароў, што трэба быць верным сацыяльнай навуцы Царквы і ажыцьцяўляць яе ў практыцы. Сапраўды гэта адзіная навука, якая можа спыніць пашырэньне вельмі даймаючых грамадзкіх няшчасьцяў. Навука Царквы задзіночвае і ўдасканальвае вымогі справядлівасьці і абавязкі міласэрнасьці, а такжа спрыяе ўстанаўленьню грамадзкага ладу, які ня прыгноблівае асобы, ані не замыкае яе ў сьляпым эгаізьме, але адзіночыць усіх у гарманійных узаемаадносінах і ў зьвязкох брацкае салідарнасьці».

### КАНГРЭС АНГЛІЙСКІХ КАТАЛІКОЎ.

З нагоды сотых угодкаў аднаўленьня каталіцкае ерархіі ў Англіі, зьнішчанае ў XVI в. англіканізмам, адбыўся сёлета ў Лёндане ў днёх 25-IX — 2-X аграмадны кангрэс англійскіх каталікоў, на які зьехалася больш ста тысяч удзельнікаў. Паседжаньні Кангрэсу мелі вельмі паважны і ўрачысты характар. На заканчэньне Кангрэсу прамаўляў да ўдзельнікаў праз радыё Сьвяцейшы Айцец.

Варта зацеміць, што за мінулае стагодзьдзе лік каталікоў у Англіі ўзрос з 200.000 да 4 мільёнаў.

### НОВЫЯ БІСКУПСКІЯ СЬВЯЧАНЬНІ Ў ЮГАСЛАВІІ.

Не зважаючы на прасьледаваньне Каталіцкае Царквы ў Югаславіі, стойкасьць вернікаў не зьмяншаецца. У выніку гэтага апошнім часам ужо адбыліся другія біскупскія сьвячаньні. Гэтым разам быў пасьвячаны Я. Э. Алёповіч на Сараеўскі біскупскі пасад.

Да гэтага часу ў югаслаўскіх турмах знайходзіцца каля 300 каталіцкіх духоўных.

### ЗАЧЫНЕНЬНЕ БАГАСЛОЎСКІХ ФАКУЛЬТЭТАЎ.

З канцом 1949-50 акадэмічнага году зачынены ў Баўгарыі праваслаўны-багаслоўскі факультэт Софійскага унівэрсытэту. На яго мейсца дазволена адчыніць вышэйшую духоўную школу пры Баўгарскай Праваслаўнай Царкве і названа яе Духоўнаю Акадэміяю.

Падобна і ў Румыніі пазачыняты ўсе праваслаўныя багаслоўскія факультэты пры дзяржаўных унівэрсытэтах, а духоўныя сэмінарыі заменены ў прафэсыянальныя школы. Дазволена захаваць толькі тры багаслоўскія інстытуты і тры сэмінарыі, але і ў іх забаронена выкладаць некаторыя «бескарысныя» навукі.

Каталіцкія навучальныя ўстановы і ў Баўгарыі і ў Румыніі пазачыняты ўсе бяз вынятку яшчэ летась.

### БЯЗБОЖНІЦКАЯ ПРАПАГАНДА.

Ад некаторага часу ў Савецкім Саюзе значна ўзмоцнілася бязбожніцкая прапаганда. На мейсца даўнейшага «Саюзу Ваюючых Бязбожнікаў» разьвязанага ў 1942 г., цяпер прапагандаю бязбожжа займаецца «Таварыства для Пашырэньня Навукі і Палітычных Ведаў» пад старшынствам праф. Вавілава. Мэтады прапаганды цяпер крыху адменныя, як былі раней, але сутнасьць астаецца тая самая.

### НАСТУП НА КАТАЛІЦКУЮ ЦАРКВУ Ў ЧЭХАСЛАВАЧЧЫНЕ ЎЗМАЦНЯЕЦЦА.

Аб палажэньні каталікоў у Чэхаславаччыне даходзяць што раз сумнейшыя весткі. Арышты духавенства ня спыняюцца: нядаўна арыштаваны рэктар Пражскае сэмінарыі і большасьць прафэсароў багасловіі, архіб. Бэран, які ўжо доўгі час быў пад дамовым арыштам, нядаўна перавезены ў пражскую турму Панкрац. Каля 90% парахвіяў ня маюць парахаў. Затое адчынена фальшывыя сэмінарыі: ў Празе і ў Брацісlаве на 100 чалавек для падрыхтоўкі фальшывых духоўных.

Рыхтуецца закон аб канфіскацыі царкоўнае



 

маемасьці: рэліквіяў, абразоў, бібліятэкаў, статуяў ды іншых каштоўнасьцяў.

### РЭЛІГІЙНЫЯ АДНОСІНЫ ў ПОЛЬШЧЫ.

Апошнім часам у Польшчы значна ўзрасло напяцьце між польскаю камуністычнаю ўладаю і Каталіцкаю Царквою. Улада зажадала, каб на мейсца тымчасовых адміністратараў на бышых нямецкіх абшарах былі назначаны сталыя біскупы. Але такая перамена магчымая толькі з дазволу Апостальскага Пасаду. У Ватыкане-ж на дамаганьне польскае ўлады адказалі, што да часу падпісаньня міру з Нямеччынай, нельга рабіць такіх зьменаў, якія не абаснованы на ўзаемным дагаворы абедзвёх зацікаўленых краінаў.

У зьвязку з гэтым польскі ўрад арганізуе розныя «зьезды» прагрэсыўных вернікаў і фальшывых сьвятароў, якія выдаюць розныя крыклівыя рэзалюцыі і дамаганьні да каталіцкіх біскупаў, каб гэткім чынам пасеяць незадаваленьне і недавер у народзе.

### КРЫВАВЫЯ АХВЯРЫ.

Як паведамляе Пэкінскае радыё, кітайскі камуністычны ўрад 20-X у правінцыі Гопэй растраляў двох каталіцкіх сьвятароў і вернікаў «за шпіяназж». Іншых двох сьвятароў засуджана на дасьмяротную турму.

Карэйскія камуністы адступаючы, вывезьлі шматлікіх каталіцкіх місіянароў. Тымчасам ведама, што апостальскі прэфэкт з Коанью Я. Э. Брэннан разам з адным француcкім і двумя ірландзкімі місіянарамі — забітыя. Аб іншых няма вестак.

### АБАВЯЗКОВАЕ НАВУЧАНЬНЕ РЭЛІГІІ ў ТУРЦЫІ.

Сёлета турэцкі ўрад выдаў загад, на падставе якога ўва ўсіх пачаткавых школах Турцыі мае быць уведзена абавязковая навука магамэтанскае рэлігіі. Гэтая навука была скасавана падчас школьнае рэформы Кэмаля.

---

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

**АНГЛІЯ.**

### Выдавецкая дзейнасьць.

Згодна з паведамленьнем, надрукаваным ў Нр. 11 часапісу «На шляху», пачынаючы ад верасьня г.г., гэты часапіс мае выходзіць рэгулярна, як месячнік, дзякуючы стараньням Беларускага Выдавецкага Фонду на В. Брытанію.

**АЎСТРАЛІЯ.**

### Скаўты арганізуюцца.

Сёлета ў Мэльбурне паўстаў першы зьвяз беларускіх скаўтаў у Аўстраліі. За кароткі час свайго існаваньня беларускія скаўты маюць ужо сваю сьвятліцу і цяпер стараюцца навязаць лучнасьць з сваімі сябрамі расьцярушанымі па ўсёй Аўстраліі.

### Падрыхтоўка да выстаўкі.

Уканцы гэтага году мае адбыцца ў Сыднэі міжнародная выстаўка новапрыехаўшых ДП. Паасобныя нацыянальныя камітэты ўжо праводзяць да гэтага адпаведную працу. Беларусы так-жа зьбіраюць экспанаты да выстаўкі.

**БЭЛЬГІЯ.**

### Адкрыцьцё новага акадэмічнага году ў Лювэне.

Дня 2-X адбылося адкрыцьцё новага акадэмічнага году на Лювэнскім унівэрсытэце. Адкрыцьцё пачалося ўрачыстым паходам у касьцёл сьв. Пятра. У паходзе ўдзельнічалі: Рэктар унівэрсытэту, высокія госьці, прафэсары і студэнты. Наперадзе калёны ішлі калёны студэнтаў з сваімі сьцягамі, між імі заняў сваё мейсца і беларускі бел-чырвона-белы сьцяг. Пасьля Службы Божае калёны накіраваліся ў адзін з унівэрсытэцкіх будынкаў, дзе Рэктар прывітаў гасьцей і студэнтаў усіх нацыянальнасьцяў з пачаткам новага акадэмічнага году.

### Гурток беларускіх студэнтаў у Лювэне.

Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне ў Лювэне сёлета налічвае 29 студэнтаў. У хуткім часе чакаецца яшчэ двох, якія ў бліжэйшы час маюць сюды прыехаць з суседніх краінаў.

### Агульны Сход.

З нагоды распачацьця новага акадэмічнага году Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне ў Лювэне адбыло Агульны Сход. Адкрываючы гэты Сход, калега Рагуля прывітаў сяброў і падчыркнуў значэньне студэнцтва ў грамадзкім жыцьці. Справы парушаныя на парадку дня Сходу абгаворваліся асноўна і ўсебакова. Асаблівую ўвагу звернена на грамадзкую працу. У выніку гэтага быў прыняты новы абшырны плян працы на бягучы год, у якім намечана ўнутранае самаўзгадаваньне і дысцыпліну ды вонкавую рэпрэзэнтацыю, як: беларускія канцэрты на унівэрсытэцкім форум, выступы ў бэльгійскім радыё, канцэрты для беларускіх работнікаў у Бэльгіі і інш. Сход выбраў *наступную* ўправу БСЗ: старшыня — М. Жылік, заступнік — Ч. Кукель, сакратар — В. Шчэцька, скарбнік — У. Цьвірка, сябра — Я. Запруднік.



### Арганізацыя Беларускіх Камбатантаў.

Згуртаваньне Беларускіх Камбатантаў у Бэльгіі — гэта адна з малодшых белар. арганізацыяў на абшары Бэльгіі. Датуецца яна толькі ад красавіка г.г. Але за кароткі час свайго існаваньня яна прарабіла вялікую працу, згуртавала паважную колькасьць сяброў, і ўжо 8-X адбыўся ў Лювэне першы Агульны Зьезд ЗБК, на якім прынята статут, выслухана рэфэраты на актуальныя тэмы, намечана плян працы і выбрана сталую ўправу. Старшынёю выбрана Т. Цімафейчыка. Для ўдзельнікаў Зьезду студэнцкі хор пад кіраўніцтвам камп. М. Равенкага выканаў шэраг беларускіх народных і нацыянальных песьняў. На заканчэньне ўдзельнікі праслухалі гаворанyю гумарыстычную камбатанцкую газэтку.

### Адведзіны прэзыд. М. Абрамчыка.

На запросіны беларускіх студэнтаў з Лювэну прэз. М. Абрамчык дня 3-XI прыехаў у Бэльгію, каб адведаць там беларускіх студэнтаў і работнікаў. З гэтае нагоды ў Доме Беларускіх Студэнтаў у Лювэне дня 4-XI была наладжана супольная вячэра з удзелам усіх беларускіх студэнтаў і некаторых бэльгійскіх госьцяў. Пасьля вячэры Прэзыдэнт прачытаў абшырны рэфэрат аб сваіх уражэньнях з падарожжа ў Амэрыку. Наступнага дня папалудні ён прачытаў рэфэрат для сяброў Саюзу Беларусаў у Бэльгіі. Пасьля рэфэрату слухачы ставілі цэлы рад розных пытаньняў, на якія паважаны прэлегэнт даваў кароткія, але ясныя адказы.

На заканчэньне афіцыяльнае часткі беларускі студэнцкі хор пад кіраўніцтвам кампазытара М. Равенскага даў невялікі канцэрт беларускіх народных песьняў.

Падчас свае прысутнасьці ў Лювэне прэз. М. Абрамчык даў інтэрвію бэльгійскім журналістам. Гэтае інтэрвію зьмясьцілі найбольшыя бэльгійскія газэты: «Ля лібр Бэльжік» Нр. 317 з дня 13-XI і «Гэт Вольк» Нр. 296 з дня 11-XI.

**ГІШПАНІЯ.**

### Просьба да беларускіх рэдакцыяў.

Група беларускіх студэнтаў у Мадрыдзе зьвяртаецца з просьбаю да рэдакцыяў усіх беларускіх газэтаў і часапісаў на эміграцыі высылаць ім свае выданьні на адрас: Grupo Bieloruso, 63 Calle Donoso Cortes, Madrid, Spain/Espagne.

**ДАНІЯ.**

### Умовы жыцьця.

Нядаўна апошні гуртовы транспарт з уцекачамі пакінуў Данію накіроўваючыся ў Аўстралію. Тыя-ж уцекачы, якія да гэтага часу не змаглі з тае ці іншае прычыны выэміграваць, дык ім данскі ўрад даў магчымасьць астацца ў Даніі і заняцца працыю ў гарадох і вёсках, якою хто можа. Плата за працу даецца такая-ж, як і данскім грамадзянам. Усе ранейшыя лягэры ўжо ліквідуюцца. Гэткім чынам некаторыя беларусы пакінулі лягэры і пачалі будаваць сабе новае жыцьцё між свабоднага данскага народу.

**Ю. Л.**

**З.Ш.А.**

### Беларуская Каталіцкая Арганізацыя.

Як паведамляе Агэнцыя Інтэр-Католік Прэс з дня 5-VII сёлета заснавана ў Нью Ёрку Беларуска-Амэрыканскае Каталіцкае Таварыства для злучэньня ўсіх беларусаў каталікоў у Амэрыцы для рэлігійных і грамадзка-культурных мэтаў. Старшынёю ўправы выбраны др. Ст. Грынкевіч, заступнікам старшыні — В. Пануцэвіч, скарбнікам — А. Попко.

Прыспарай, Божа, у працы!

### На выдавецкай ніве.

Сёлета амаль адначасна пачалі выходзіць у Нью Ёрку дзьве беларускія газэты: «Беларуская трыбуна», якая паводля зьместу вельмі падобная да бакнанскага «Беларускага слова» і другая: «Беларус», як орган Задзіночаньня Беларусаў у З.Ш.А.

**ІТАЛІЯ.**

### Новы каталіцкі часапіс.

Сёлета ў верасьні вышаў у Рыме першы нумар беларускага каталіцкага часапісу «Зьніч» пад рэдакцыяй кс. др. П. Татарыновіча. Часапіс друкуецца лацініцаю і мае на мэце стацца: Беларускаю рэлігійна-адраджэнскаю часопісьсю.

**НЯМЕЧЧЫНА.**

### Украінска-беларуска-грузінскі Клюб.

Сёлета 13-га верасьня ў Мюнхэне мяйсцовыя прадстаўнікі беларусаў, украінцаў і грузінаў зарганізавалі супольны Клюб для паглыбленьня культурна навуковых зьвязкоў між успомненымі трымя народамі шляхам рэфэратаў і супольнае працы на аснове хрысьціянскага сьветагляду.

Статут Клюбу ўжо зацьверджаны нямецкім урадам. У склад управы Клюбу выбрана: старшыня — праф. В. Шчэрбакіўскій, заступнік — праф. А. Метравелі, другі заступнік — яп. Васілі (Тамашчык), сакратар — О. Калінькік.

### Школа працуе.

У лягэры Зээдорф (Брыт. зона) жыве 1.500 ДП розных нацыянальнасьцяў, між імі каля 10% беларусаў. Стараньнем мяйсцовага Беларускага Камітэту сёлета ад пачатку верасьня пасьля летняга перапынку распачала зноў сваю працу беларуская пачатковая школа.

Школа мае 5 адзьдзелаў і ў ёй працуе 3 настаўнікі. Паколькі нямецкія ўлады да гэтага часу не даюць ніякае помачы для школы і нават ня плацяць настаўнікам, да чаго яны забавязаныя, пераняўшы пад сваю адміністрацыю лягэры ДП, дык школа існуе толькі дзякуючы ахвярнасьці беларускіх настаўнікаў, якія бясплатна працуюць і ў школе, і на курсах для бязграматных і малаграматных.

### Вечар АБН

У балтыйскім лягэры Омштэдэ ў Ольдэнбургу мяйсцовы гурток АБН (Антыбальшавіцкі Блёк Народаў) дня 10-IX ладзіў супольны беларускаўкраінска-латыскі Вечар.

Беларускую частку на Вечары выканалі: камэрны сьпявак Юры Сенькоўскі і кампазытар Алесь Карповіч. У прагране былі народныя і патрыятычна-ідэйныя песьні.

Слухачы з мяйсцовага і суседніх лягэроў цёпла прынялі выканаўцаў і няраз незмаўкаючымі воплескамі выклікалі выканаўцаў паўтараць некаторыя нумары.

Гэты Вечар бясспрэчна выканаў сваю мэту — узмоцніў лучнасьць між народамі супрацьбальшавіцкага фронту.

## ФРАНЦЫЯ.

### Легалізацыя БНАМ.

Сёлета 1-га ліпеня францускі «Афіцыяльны Дзёньнік» падаў да ведама, што Беларуская Незалежніцкая Арганізацыя Моладзі атрымала зацьверджаньне свайго статуту і згодна з ім мае поўнае права дзеяньня на ўсім абшары Францыі.

### Прыезд прэз. М. Абрамчыка.

Вяртаючыся з свайго доўгага падарожжа па Амэрыцы, дня 11-га кастрычніка прэз. М. Абрамчык прыехаў у Францыю. На парыскай станцыі сьв. Лазара спаткалі Прэзыдэнта прадстаўнікі беларускае калёніі з Парыжу і ваколіцы.

### Даклад аб Амэрыцы.

У салі Хрысьціянскага Сындыкату ў Парыжу дня 22-га кастрычніка сабралася немалая грамада беларусаў, каб выслухаць даклад прэз. М. Абрамчыка аб беларускім жыцьці ў Амэрыцы. З вялікім зацікаўленьнем слухалі ўсе прысутныя аб балячках і радасных праявах жыцьця сваіх суродзічаў за акіянам. Пасьля дакладу Прэзыдэнт яшчэ даваў дадаткова зьместоўныя высьненьні на пытаньні слухачоў.

## НА КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ.

Сёлета на эміграцыі выдана параўнаўча менш беларускіх кніжак, як у папярэдніх гадох, але затое яны азначаюцца сваею салiднасьцю. Вось важнейшыя з іх:

а. Л. Гарошка — Сьв. Еўфрасіня-Прадслава Полацкая патронка Беларусі. Стр. 80. Парыж, 1950. Гэта зборнік гістарычных артыкулаў аб сьв. Еўфрасіні, якія на працягу мінулага году друкаваліся ў «Божым шляхам».

В. Друя — Ты і Яна. Стр. 112. Парыж, 1950. Гэта так-жа адбітка з «Божым шляхам». Кніжка прызначана ў першую чаргу для моладзі.

а. П. Татарыновіч — S. Cirillo Vescovo di Torov e la sua dottrina spirituale. Стр. 96. Рым, 1950. У італьянскай мове. Гэта больш важныя часткі дакторскае дысэртацыі а. Татарыновіча.



З сьвецкіх выданьняў заслугоўваюць на ўвагу:

Прэз. М. Абрамчык — I accuse the Kremlin of genocide of my nation. Стр. 36. Торонто, 1950. Гэта дакумантальная кніжка ў ангельскай мове, дзе падаюцца аўтэнтычныя дакуманты і іхныя фотокопіі аб тым, як бальшавікі нішчылі беларускі народ. Гэтая кніжка можа ўважацца сапраўды голасам мучанага беларускага народу да сумленьня вольных народаў усяго сьвету.

Пр. Каваль — Беларусь у датах, ліках і фактах. Стр. 68. Парыж, 1950. Ратапарнае выданьне «Моладзі». Гэта зборнік вельмі цэнных вестак аб Беларусі так з даўнейшых часоў, як і з сучаснасьці.

С. Брага — Балцкі элемэнт пры паўстаньні сучаснага беларускага народу. Стр. 15. Ратапарнае выданьне «Ускалосьсі». Тэорыя, якую разьвівае аўтар у гэтай брашуры ня ёсьць новаю, яна ўжо ня раз і абараняласе і аспрэчвалася так беларускімі, як і суседнімі гісторыкамі.

Варта яшчэ ўспомніць, што ў Аўстраліі зроблена другое выданьне брашуры: «Whiteruthenia (Bielarussia)», выданае ў 1947 г. у Нямеччыне.

### ЗЬМЕСТ:



Gérant : D. Kucopej. Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris. Directeur : Abbé L. Horosco.